# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 8 (630)**
**Жнівень 2018 г.**


## Марш Паняволеных Народаў і ліпеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У нядзелю, 15 ліпеня 2018 году, на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў Марш Паняволеных Народаў. Традыцыйна Марш зьяўляецца імпрэзай, што адкрывае Тыдзень Паняволеных Народаў – шэраг мерапрыемстваў, скіраваных на інфармаваньне ды прыцягненьне ўвагі амэрыканскай грамадзкасьці да становішча, у якім знаходзяцца народы па цэлым сьвеце, што жывуць пад уціскам камуністычных, пост-камуністычных ды кожных іншых тыраніяў і дыктатураў.

Гістарычна Тыдзень Паняволеных Народаў быў запачаткаваны ў 1959 годзе праз адмысловы ўрадавы закон, высунуты загадам прэзыдэнта Дўайта Айзэнгаўэра, а пасьля зацьверджаны Кангрэсам ЗША. На той час, час супрацьстаяньня камунізму і Вольнага сьвету, Тыдзень Паняволеных Народаў стаў і нагодай, і пляцоўкай для выказваньня пратэсту супраць расейскага камуністычнага імпэрыялізму. Каардынаваньне дзейнасьці эміграцкіх антыкамуністычных арганізацыяў выхадцаў з Усходняй Эўропы праводзіў адмыслова створаны Камітэт Паняволеных Народаў, адным з заснавальнікаў якога былі й беларускія арганізацыі Амэрыкі. Камітэт рыхтаваў ня толькі імрэзы Тыдня Паняволеных Народаў, але і ўсю працу, скіраваную на дапамогу паняволеным народам Эўропы й Азіі. На працягу ўсіх тых гадоў камуністычнага панаваньня аж да пачатку 1990-х гадоў беларусы ды іншыя прадстаўнікі эміграцыйных арганізацыяў народаў, што былі паняволеныя расейскім камунізмам – латышоў, палякаў, сэрбаў, мадзяраў, славакаў, эстонцаў, украінцаў, чэхаў, баўгараў, летувісаў, харватаў, а таксама казакоў, татараў ды іншых – працавалі супольна. Яны ладзілі сумесныя акцыі й мітынгі перад савецкімі дыпляматычнымі прадстаўніцтвамі, рабілі пікеты, распаўсюджвалі публікацыі, працавалі з сэнатарамі й кангрэсмэнамі, з прэзыдэнцкімі адміністрацыямі.

Беларускія грамадзкія арганізацыі ў Амэрыцы заўсёды былі аднымі з найбольш актыўных у дзейнасьці Камітэту. На працягу дзясяткаў гадоў пад кіраўніцтвам Камітэту Паняволеных Народаў у кожны трэці тыдзень ліпеня сталіца сьвету – Нью-Ёрк – рабіўся трыбунаю публічных акцыяў і масавых дэманстрацыяў прадстаўнікоў усіх краінаў Усходняй Эўропы і Азіі, якія падпарадкаваў сабе камунізм.

Адным з найбольш памятных мерапрыемстваў Тыдня была дэманстрацыя Паняволеных Народаў каля Статуі Свабоды ў 1976 годзе, на 200-годзьдзе ЗША. А ў 1988 годзе, на 30-годзьдзе Тыдня Паняволеных Народаў, у сьвяткаваньні ўзяў удзел прэзыдэнт ЗША Роналд Рэйган, які ў сваёй прамове, у

***заканчэньне на бачыне 2***



# Марш Паняволеных Народаў і ліпеньскі сход

***заканчэньне з бачыны 1***

прыватнасьці, сказаў: "Сябры, паверце – Амэрыка ніколі не забудзецца на пакуты Паняволеных народаў па ўсім сьвеце! Мы ніколі не перастанем казаць праўду. Вашае змаганьне – ёсьць і нашым змаганьнем. Вашая мара – ёсьць і нашай марай. І аднойчы вы пераможаце, і аднаго дня вы зробіцеся вольныя!" Праз тры гады сказанае ў словах Рэйгана стала явай, Усходняя Эўропа вызвалілася ад камунізму, зьнік Савецкі Саюз.




Штогод беларускія арганізацыі бралі актыўны ўдзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, і асабліва вылучалася Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Цяпер гэты гонар штогод мае Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня". Менавіта беларусы складаюць цяпер пераважную большасьць удзельнікаў Маршу Паняволеных Народаў. Нажаль, прадстаўнікі ўсходнеэўрапэйскіх ды азіяцкіх арганізацыяў, што некалі задавалі тон, пакуль не далучаюцца да імпрэзы, ня гледзячы на лісты і звароты ад "Пагоні". Асабліва дзівіць адсутнасьць украінскіх арганізацыяў, што маглі б эфэктыўней прыцягнуць увагу грамадзтва да абуральнага расейскага ціску і агрэсіі ў Крыме й на ўсходзе Ўкраіны. Некалькі год таму на Маршы зьяўляліся і прадстаўнікі Вэнэсуэлі, альбанскіх арганізацыяў, прыхільнікі незалежнасьці Тыбету, прадстаўнікі Кубы, Нікарагуа, кітайскія і віетнамскія змагары супраць камунізму. Але, нажаль, не было навязана шчыльнейых кантактаў, не была выказаная зацікаўленасьць супрацоўнічаць зь імі у шэрагах Камітэту Паняволеных Народаў. Натуральна, што гэткая расьцярушанасьць і незгуртаванасьць, адсутнасьць сувязаў і каардынацыі як мага лепей працуюць на руку таталітарным дыктатурам. Трэба шукаць шляхі пераадоленьня такой сытуацыі, і адным з крокаў наперад было б актывізаваньне дзейнасьці Камітэту Паняволеных Народаў.

Нягледзячы на пахмурнае неба ды маленькі дождж, удзельнікі Маршу 15 ліпеня сабраліся каля гатэлю "Пляза" пры 59-й вуліцы і 5-й авэню. Затым яны калёнаю пайшлі да Сабору сьв. Патрыка пры 50-й вуліцы, дзе перад парталам катэдры адбылося ўрачыстае асьвячэньне сьцягоў. Затым у Саборы прайшла імша за Паняволеныя Народы й вызваленьне іх ад тыраніі. Пробашч Сабору, Мансынёр Робэрт Рытчы, які высьвеціў сьцягі, узгадаў таксама Паняволеныя Народы і падчас літургіі, і ў сваёй казані. Пасьля імшы ўдзельнікі імпрэзы разам сфатаграфаваліся перад саборам і затым прайшлі Маршам па 5-й авэню да 59-й вуліцы. Затым яны завярнулі на 59-ю вуліцу і дайшлі да Мэйн-манумэнту ў Цэнтральным парку пры Калямбус-сыркл.

Падчас Маршу гучэлі лёзунгі "Freedom to all Captive Nations!", "Жыве Беларусь!", "Свабоду ўсім Паняволеным Народам!" "Свабоду Беларусі!", "Беларусь – ТАК! Лукашэнка – НЕ!" Скрозь на маршы дамінавалі беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, маршыруючыя несьлі транспарант Камітэту Паняволеных Народаў, плякаты "Stop Luka", "Свабоду палітвязьням", "Freedom to Belarus", "Жыве Беларусь". Каля Мэйн-манумэнту адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдню Паняволеных Народаў, якое распачаў уступным словам сп. Яан Куўм, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, і прадстаўнік амэрыканска-эстонскай і амэрыканска-кубінскай грамады. Быў зачытаны прывітальны ліст ад прэзыдэнта ЗША Дональда Дж. Трампа, у якім той прывітаў і падтрымаў змаганьне Паняволеных народаў за свабоду.

Ад беларускай грамады выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка, які падзякаваў прысутным за ўдзел у імпрэзе і заклікаў да пашырэньня інфармацыі пра Паняволеныя Народы і да прыцягненьня моладзі ў шэрагі Камітэту Паняволеных Народаў. Ён распавёў пра змаганьне за свабоду й дэмакратыю ў Беларусі, а таксама падкрэсьліў, што змаганьне за свабоду – гэта штодзённы рэфэрэндум, г. зн. што свабода ня ёсьць рэч бясплатная, за яе плоцяць, і часта – крывёю. Нажаль, гэтае сьцьверджаньне робіцца актуальным і ў сёнешніх Злучаных Штатах, калі правы і свабоды, заваяваныя змагарамі Вайны за незалежнасьць і айцамі-заснавальнікамі ЗША, сёньня ставяцца пад пытаньне, і аплёўваюца сучаснымі левирадыкальнымі элітамі.

Сп. Яан Куўм выступіў з прамовай пра гісторыю і мэты Камітэту Паняволеных народаў, заклікаў да больш актыўнага ўдзелу ў ягонай працы.




Прамовы былі уважліва выслуханыя прысутнымі, большасьць зь якіх складалі прадстаўнікі Згуртаваньня "Пагоня" ды іхныя сябры і знаёмыя.

Пасьля там жа каля Мэйн-манумэнту ў скарочаным фармаце прайшоў ліпеньскі сход "Пагоні", на ім вырашаліся тэхнічныя пытаньні арганізацыі і прагучэлі аб'явы. Наступны сход вырашана правесьці 12 жніўня на прыродзе ў Праспэкт-Парку ў Брукліне, спалучыўшы зь нефармальным сяброўскім пікнікам.

***Віталь ЗАЙКА***

## Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Юрка ВІЦЬБІЧ - пісьменьнік, публіцыст, грамадзкі дзеяч

Юрка Віцьбіч (1905-1975; сапраўднае імя Георгі (Сэрафім?) Шчарбакоў, псэўдонімы Юрка Стукаліч, Алесь Крыжаніч) – пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, публіцыст і краязнаўца, выбітная асоба ў гісторыі беларускай грамады ў Амэрыцы. Юрка Віцьбіч быў адным з найбольш актыўных беларускіх дзеячаў у сфэры культурнай сярод другой хвалі беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах.

Нарадзіўся ён у сям'і праваслаўнага сьвятара і настаўніцы ў Вяліжы, на Віцебшчыне, у старажытным горадзе Вялікага Княства Літоўскага, што ў савецкі час быў прылучаны да РСФСР. У тыя часы яшчэ былі ведамыя і памятныя ў народзе старадаўнія часы, беларуская мінуўшчына. Юрка Віцьбіч згадваў свайго прадзеда – уніяцкага сьвятара, які за нязгоду перайсьці ў расейскае праваслаўе падчас гвалтоўнага "ўзьяднаньня" 1839 годзе быў высланы ў Сароўскі манастыр у глыб Расеі, дзе і памёр. Юрка Віцьбіч скончыў у Вяліжы школу і Вяліскі пэдтэхнікум.



Настаўнікам Ю. Віцьбіча ў школе другой ступені ў Вяліжы быў беларускі патрыёт Міхаіл Навіцкі, што потым стаў пратаярэям Беларускай Аўтакефальнай Царквы. Пазьней а. Навіцкі быў закатаваны бальшавікамі за подпіс, які паставіў разам зь Мітрапалітам Мэльхісэдэкам у 1924 годзе за арганізацыю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Ён быў адным з тых, хто прышчапіў Віцьбічу беларускую сьведамасьць і патрыятызм, цікавасьць да роднай зямлі.

Юрка Віцьбіч быў закаханы ў гісторыю свайго краю, працягваючы традыцыю выдатных папярэднікаў-дасьледчыкаў беларускай мінуўшчыны і фальклёру: М. Нікіфароўскага, А. Сапунова, У. Дабравольскага, Е. Раманава. Віьцбіч дасьледваў віцебскую і полацкую мінуўшчыну, помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва ўсходняй Беларусі й Смаленшчыны.

Як "клясава варожы элемэнт", сын сьвятара, Віцьбіч пасьля сканчэньня пэдтэхнікуму ня мог атрымаць працу настаўніка, служыў у войску, мусіў працаваць на будоўлях, на хімзаводзе. Потым змог уладкавацца ў экспэдыцыі па выяўленьні гістарычных і культурных помнікаў, узначаліў Аршанскую экспэдыцыю. Ён самастойна працягваў штудыі ў розных галінах ведаў, найперш у такіх, як літаратура, археалёгія, этнаграфія, фальклёр, гісторыя мастацтва і сусьветная гісторыя.

Віцьбіча таксама вабіла пісьменьніцкая творчасьць. Ягонае першае апавяданьне, "Млынарова рука" (першапачаткова: "Як загінуў Ясь") было надрукавана ў часапісе "Ўзвышша" (№ 9-10, 1929). Ужо тады здольнасьці Віцьбіча належна адзначылі Кузьма Чорны, Уладзімер Дубоўка і Язэп Пушча.

Юрка Віцьбіч уваходзіў у суполку "Ўзвышша", і ў 1932 годзе выйшла ягоная кніга "Сьмерць Ірмы Лаймінг", а ў 1937 – "Формула супраціўленьня касьцей". Вядомы твор Віцьбіча "Лшоно Гобоо Бійрушалайм" быў апублікаваны ў "Полымі рэвалюцыі", але твор адразу быў скрытыкаваны "за нацыяналістычныя і клясавыя адхіленьні" і неўзабаве забаронены. Ня маючы мажлівасьці адкрыта займацца штудыямі найноўшай гісторыі, Віцьбіч пакрыёма займаўся зборам матэрыялаў пра антысавецкі рух у Беларусі. Цэлы час над Ю. Віцьбічам вісела пагроза быць абвінавачаным у "нацдэмаўшчыне" і быць высланым або трапіць за краты, як сталася з іншымі сябрамі "Ўзвышша". У падсавецкай Беларусі Віцьбіч ня мог адкрыта выказваць свае пагляды, і гэта ў нейкай ступені кампэнсавалі краязнаўчыя досьледы і працу па пошуку помнікаў беларускай культуры. У студзені 1941 году Віцьбіча арыштавала НКВД за тое, што здолеў паставіць сьціплы помнік на магілах вялікіх паўстанцаў.

Вызвалены з пачаткам савецка-нямецкай вайны з турмы падчас прыходу немцаў, у часе вайны Ю. Віцьбіч браў удзел у працы Беларускага культурнага таварыства, друкаваў артыкулы і нарысы ў газэтах "Раніца", "Голас вёскі", "Беларускі работнік", у "Менскай (Беларускай) Газэце". У 1944 годзе выехаў на Захад. Пасьля заканчэньня вайны жыў у ДыПі-лягерох, браў удзел у беларускім культурніцкім жыцьці на чужыне, арганізаваў выданьне рэлігійнага часапісу "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", рэдагаваў газэту "Беларускі голас". Стаў адным з заснавальнікаў літаратурнага згуртаваньня "Шыпшына", дэкларацыю якой падпісалі 12 пісьменьнікаў, а друкавалі свае творы ў часапісе пад такой жа назваю больш за 30 аўтараў. Акрамя таго, друкаваліся ў "Шыпшыне" творы беларускіх пісьменьнікаў, што былі рэпрэсаваныя бальшавіцкім рэжымам. У Нямеччыне Віцьбіч друкаваўся ў газэце "Бацькаўшчына", выступаў на Радыё Свабода.

Напачатку 1950-х гадоў Ю. Віцьбіч перабраўся ў Злучаныя Штаты, і адразу далучыўся да грамадзкага і культурніцкага беларускага жыцьця. Віцьбіч выступаў на амэрыканскім мясцовым радыё ў праграмах Э. Ясюка, на Радыё Свабода, выдаваў брашуры і артыкулы на ратапрынце, зьмяшчаў свае артыкулы ў разнастайных выданьнях, як беларускіх так і небеларускіх. Маючы добрыя адносіны з яе рэдактарамі, Ю. Віцьбіч быў актыўным аўтарам уплывовай нью-ёркскай газэты "Новае Рускае Слова", кантактаваў з латыскімі журналістамі, ягоныя артыкулы зьяўляліся ў летувіскіх выданьнях, ён меў добрыя сувязі з украінскімі культурніцкімі дзеячамі ў ЗША.

Натуральна Ю. Віцьбіч быў надзвычай актыўны ў беларускім эмігранцкім друку, публікаваў працы ў "Бацькаўшчыне", "Запісах", "Конаднях". У Амэрыцы выйшлі ягоныя кнігі "Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман" (1956), "Мы дойдзем" (1974, па-расейску), "Антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі" (1998). Па ўспамінах сучасьнікаў, Юрка Віцьбіч быў надзвычай самаадданым і працаздольным грамадзкім дзеячам, таленавітым пісьменьнікам і кампэтэнтным гісторыкам. Маючы выдатныя здольнасьці папулярызатара, Віцьбіч разам з тым канкрэтны і пэдантычны ў дэталях, і ў сваіх творах заўсёды заставаўся верны фактам. Юрка Віцьбіч быў бескампрамісным антыкамуністам, па сваім жыцьці і досьведзе спазнаўшым, якую небясьпеку нясе чалавецтву крывадушная брутальная ўтопія, і даносіў гэта да іншых праз свае публікацыі. Ён быў таксама адданым хрысьціянскім вернікам і дасьледчыкам гісторыі царквы ў Беларусі.

Папулярызацыя жыцьця і дзейнасьці Юркі Віцьбіча магла б дапамагчы стварыць узор для новых грамадзкіх дзеячаў і прыцягнуць увагу дасьледчыкаў беларускай эміграцыі.

**_Віталь ЗАЙКА_**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## “Just Say It”




Паліткарэктнасьць – гэта хобі для непісьменных. “Палісмэна” можна замяніць на “паліс-афіцэра”, але мужчынскай часьцінкі ў новай фразе ад гэтай замены парадаксальна становіцца толькі больш, а ня менш. Тое ж і з “фаерфайтэрам” і з усімі астатнімі заняткамі тыповымі для мужчын (як афіцэрства, змаганьне і г.д.). Усе такога тыпу абсурдныя забавы – гэта толькі паверхня любой мовы, і нават гэтага зьмяніць, як бачна, амаль немагчыма без наступленьня на ўяўныя граблі, а што ўжо казаць пра глыбінныя структуры і сэнсы мовы.

Напрыклад, “стрэйт” і “крукід”. Здавалася б, гэта выключна, скажам так, геамэтрычныя ўласьцівасьці, ды дзе там... Прамы – гэта правільны, прамалінейны, з правільнай арыентацыяй, а крывы, натуральна, скрыўлены, сагнуты, разбэшчаны. Капніце яшчэ глыбей і прааналізуйце, напрыклад, значэньні кантрастаў белы-чорны, або разгледзьце ўкаранёную ў рэлігійны кантэкст сьвецкую фразу “Bless you!”. Глыбейшыя пласты мовы для прымітыўнай па сваёй уласьцівасьці паліткарэктнасьці зусім недасяжныя, і яе аўтары гэта добра ўсьведамляюць, таму і займаюцца звычайным шкодніцтвам на паверхні.

Асноўная ідэя – гэта заткнуць рот, каб чалавек, які валодае мовай, перастаў ёю валодаць, перастаў гаварыць і замест гэтага пачаў мыкаць. Таму не мыкайце і не маўчыце, а гаварыце. Мы ж як ніяк людзі-men!...

***Віталь ВОРАНАЎ***

---

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

А. Дзежыц ................60
А. Каляда ................60
Л. Місевіч ................60
А. Мядзьведзеў ..........60
А. Неліповіч .............60
С. Новік ..................60
П. Панасевіч ............60
М. Федасеева ............60
П. Шымко ................60

**Усім шчыры дзякуй!**

---

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, своечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі і падпіску на інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні”.

---

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** *Viktar Yedzinovich.*

---

*Паважаная **А. Волкава,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

---

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

будзе палучаны зь сяброўскім пікнікам і пройдзе 12 жніўня 2018 году. Удзел у пікніку па жаданьні.

Імпрэза ладзіцца супольна Згуртаваньнем *“Пагоня”* і камандай *“Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй”* і адбудзецца ў Праспэкт-Парку (Бруклін).

У парку ёсьць грылі, а арганізатары паклапоцяцца пра вуглі для іх, каб была магчымасьць падсмажыць мяса і гародніну. Плата за ўдзел у пікніку **$15** з чалавека за ежу і безалькагольныя напоі.

**Пачатак а 12-й папаўдні.** *Даезд цягнікамі падземкі F, Q. Уваход з **11th Street** і **Prospect Park West.***

Калі Вы вырашыце прыйсьці, то дашліце, калі ласка, тэкставае паведамленьне на нумар тэлефона **(732) 604-1171** (Ганна) з пазнакаю “пікнік” і паведаміце вашае прозьвішча і колькі чалавек ідзе з вамі. Гэтая інфармацыя дапаможа арганізатарам падрыхтаваць неабходную колькасьць харчоў і напояў.

Пікнік адбудзецца ў любое надвор’е. На выпадак дажджу маюцца раскладныя альтанкі.

Можна браць з сабою дзяцей.

---

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня ***Весткі й Паведамленьні*** :

М. Валынец ...............30
А. Дзежыц ................30
К. Зінавенка .............30
Л. Місевіч ................30
А. Мядзьведзеў ...........30
А. Неліповіч ..............30
С. Новік ...................30
П. Панасевіч .............30
М. Федасеева .............30
П. Шымко .................30

**Шчыры дзякуй!**

---

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя для друку артыкулы, водгукі й лісты.*

---

***Шаноўныя сябры!** Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”.*
***(стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча)**.*

---

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце **e-krama.com***